Васіль Рагаўцоў

# Імгненне і вечнасць

Вершы

Мінск, «Кнігазбор», 2010

УДК 821.161.3-1
ББК 84(4Беи)
Р14

**Рагаўцоў, В.**
Р14 Імгненне і вечнасць : вершы / Васіль Рагаўцоў. — Мінск : Кнігазбор, 2010. — 176 с.
ISBN 978-985-6976-24-0.

У кнігу Васіля Рагаўцова «Імгненне і Вечнасць» увайшло ўсё лепшае са зборнікаў «Сутонне» (1995), «Долягляд» (1998), «На роскрыжы дарог» (2008), а таксама новыя вершы.

Як суразмерыць вялікае і малое, імгненне і вечнасць — гэтыя пытанні ў першую чаргу турбуюць паэта. Роздум яго скіраваны і на спрадвечныя каштоўнасці чалавека: любоў, дабрыню, высакароднасць, самаахвярнасць. Слова паэта свежае і вобразнае.

**УДК 821.161.3-1**
**ББК 84(4Беи)**

ISBN 978-985-6976-24-0




# І ШЛЯХ, І ПОШУК…

Даўно, пачынаючы з самых першых публікацый, сачу за творчасцю Васіля Рагаўцова. Больш таго, давялося быць рэдактарам некалькіх яго паэтычных кніг. Таму і маю права на сваю думку адносна яго творчасці. Васіль Рагаўцоў адзін з тых творцаў, хто ў літаратуру ідзе сваім, хай сабе і няпростым шляхам, не заўсёды прытрымліваючыся традыцыйных «установак», але і не адпрэчваючы іх.

У кароткіх вершах-роздумах аўтар ставіць мноства пытанняў, часта пакідаючы іх без адказу. Але ў гэтым ёсць і патаемны сэнс: важна паставіць пытанне і запрасіць у суразмоўцы самога чытача, нават змусіць яго задумацца над тым, што хвалюе аўтара. Гэта — як своеасаблівае запрашэнне да дыялогу праз аўтарскую задуму.

Прыём гэты хутчэй філасофскі, чым літаратурны. Возьмем, да прыкладу, такія радкі:

*Калі не пяецца — навошта й спяваць*
*І песняй натужнай маркоціць душу.*
*Услухайся лепей у пошум дажджу,*
*Учуй, як рагоча надрыўна сава,*
*Гулліва шчабеча пад шынай жарства...*

*Навошта спяваць, як душа не пяе...*
*Услухайся лепш*
*у яе.*

Можа, на першы погляд і надта простыя радкі. Але чаму іх захацелася перачытаць яшчэ раз? Урэшце, куды скіроўвае нас аўтар? А тут, як і ў кожным філасофскім зачыне, адразу некалькі адказаў. І адзін абавязкова пэўны: трэба ўмець слухаць душу! Як пачасам гэтага не хапае паэтам.

А вось яшчэ адзін верш:

*У царкве.*
*Адны моляцца —*
*просяць паратунку,*
*другія замольваюць*
*свае грахі,*
*а трэція —*
*стаяць моўчкі.*
*З заплаканымі свечкамі.*

Зноў жа, які абсяг для роздуму! Тут паэт як быццам засяроджваецца на чымсьці драматычным. Але яно зусім не драматызуецца. Радкі верша напоўнены прадчуваннем жыццёвай непазбежнасці і незваротнасці, а то і рытуальнай звыкласцю: свечкі, слёзы…

«Дзе тут паэтычны пошук?» — можа спытацца прыдзірлівы чытач. А ён якраз і бачыцца мне ў тым, што аўтар, нікога не асуджаючы, не аспрэчваючы штосьці, бярэ ўвесь боль чалавечы (а ў падтэксце ён адчувальны) на сябе.



А вось яшчэ адносна душы:

*Каб маглі зазірнуць*
*у чалавечую душу,*
*нібыта ў люстэрка, —*
*як бы сумеліся мы…*

Пасля гэтых радкоў ужо крыху інакш глядзіш на многія вершы паэта. Чытаючы іх, трэба мець на ўвазе ўсё тую ж душу, бо яна ў В. Рагаўцова — паняцце матэрыялізаванае. Нездарма амаль заўсёды ў творах слова Душа стаіць побач са словам Бог. І абодва яны пішуцца з вялікай літары.

Дарэчы, да самога слова ў В. Рагаўцова вельмі своеасаблівыя, нават болеадчувальныя адносіны. Трэба памятаць, што ён мовазнаўца, загадчык кафедры беларускай мовы ў Магілёўскім універсітэце. А таму самыя нечаканыя яго словатворы не здаюцца нам ненатуральнымі, бо яны вынікаюць са зместу вершаў. Вельмі арганічна гучаць у тэксце ягоныя доляегляд, плыніць, травець і інш.

Паэтычны роздум Васіля Рагаўцова скіраваны да паняцця вечнасці, гаворачы пра якую, ніяк не абыдзешся без самога імгнення. Менавіта з імгнення, толькі нейкай кропелькі ў жыццёвым моры, пачынаюцца заўсёды развагі пра вечнасць. Часам складаецца ўражанне, што зашмат адразу пытанняў задае нам аўтар. Але ж яны ў першую чаргу адрасаваны сабе самому.

У кнізе ёсць добрае адчуванне шляху, ёсць удумлівая, непаспешлівая хада, а самае галоўнае —

асабісты пошук… Гэтым і цікавая нам новая сустрэча з паэтам Васілём Рагаўцовым.

*Казімір КАМЕЙША,*
*лаўрэат Літаратурнай прэміі*
*імя Аркадзя Куляшова*





## ТРЫЯЛЕТ

*Я зноў нарадзіўся на свет —*
*і ў гэтым маё збавенне.*
*Праз роспач, пакуты, сумненні*
*я зноў нарадзіўся на свет.*

*Як мара, як сон-запавет,*
*душу маю крыліць натхненне…*
*Я зноў нарадзіўся на свет —*
*і ў гэтым маё збавенне.*

*1991*



У цішыні
ёсць нешта непаўторнае,
непадуладнае пазнанню.
Яна ахінае чалавека,
каб даць яму спачын
ад пакутлівых дум,
роспачных пачуццяў,
жыццёвых нягод.
Яна гоіць знясіленыя
душы людскія.
Да самазабыцця
я слухаю цішыню
і трапляю нібыта ў іншы свет,
дзе ні згрызот,
ні спакус,
ні кпінаў,
дзе ты —
сам-насам з сабою.
Я слухаю цішыню
і міжволі ўваходжу
ў таямніцу Вечнасці.
Баюся нават павесці веямі,
каб ні на імгненне не парушыць
святое маўчанне цішыні,
яе неруш і чароўнасць.
Я раствараюся ў цішыні і знікаю,
раблюся яе часцінкай.



І пачынаю жыць у новым свеце,
дзе няма
ні божае кары,
ні людской здрады,
ні чалавечых пакут…

*1991*



Хто над Духам маім уладарыць?
Пасылае яму такі лёс?
Ён маланкай сягае за хмары,
каб спазнаць таямніцы нябёс.

І з гарачым, як жар, утрапеннем
прыпадае да вуснаў крыніц.
Ён імкне на адно хоць імгненне
прычасціцца святлом зараніц.

Як пакутнік, вандруе па краі,
ўсё часцей і часцей — без надзей:
там крыніца жыцця замірае,
Там самотныя душы ў людзей.

…Грымнуў з неба пярун ашалелы —
аж пачуліся стогны Зямлі.
І збудзіўся народ мой знямелы…
А ці стане ён шчасным?
Калі?

*1991*



Не верце, што зоркі ніколі не грэюць.
Ад зорак пагляды каханых
цяплеюць.
Ад сполаху зорак
сэрцы дабрэюць.
Ад яснага ззяння іх —
душы шчырэюць.

Не верце, што дрэвы не тужаць ніколі.
Шчымліва журбуюць яны й на прыволлі
па песнях птушыных, не чуць якіх болей,
па ветру-свавольцу, згубіўся што ў полі.

Не верце, што рэкі не просяць напіцца.
У сушу-спякоту, каб смагі пазбыцца,
сумуюць яны па сцюдзёных крыніцах,
ім сняцца начамі дажджы-навальніцы.

Не верце, што сэрца не знае спачыну,
што б’ецца яно увесь час несупынна.
Яно замірае на хвілю-часіну
ад жаху…
здзіўлення…
пагляду дзяўчыны.

*1991*





Ластавак шчабятанне,
вясёлкавае світанне,
дыханне глебы,
шчымлівы пах хлеба,
азёры і крыніцы,
знічкі-чараўніцы,
гарэзлівыя дзеці…
Што лепшае
бывае
ў свеце?

*1991*



Гармонія...
Для адных яна — святыня,
для другіх — таямніца,
для трэціх — проста каханне...
На святыню моляцца,
таямніцу імкнуцца спазнаць,
каханне —
зберагчы да скону.
Як святыню.
Як таямніцу.
Як вечнасць.
Каб жыццё было часцінкай
гармоніі.

*1991*



Ноч…
З бурштынавымі пацеркамі —
застылымі слязьмі —
высяцца стрункія сосны,
малыя —
перад веліччу
зорнага неба.

Бы сівыя прашчуры,
стаяць сіратліва дубы,
употай падзяляючы
з цішынёю
горыч і крыўду
зямную.

Нябесныя руплівуцы —
зоркі —
сваім адвечным святлом
мілуюць цішыню,
бо ведаюць:
і ёй нялёгка.

*1991*



## ІМПРЭСІЯ

Палае ўсход агніста —
і на душы квяціста.

Шумяць бары вячыста —
і на душы ўрачыста.

Ірдзее снег іскрысты —
і на душы так чыста…

А глянеш на мяне ты —
аж сэрца ўстрапянецца.

І на душы світанне —
святое, як каханне.

*1991*



Спявае Душа ад смутку,
ды спеў ад смутку журботны.

Сумуе Душа ад гуллівасці —
толькі сум бесклапотны.

Смяецца Душа ад зайздрасці —
ды смех той калючы.

А плача Душа ад радасці —
плач той — гаючы.

*1991*



У перадсмяротным змаганні
Душа пакідае чалавека,
каб развітацца
з салаўіным гаем,
які акрыляў закаханае сэрца;
з песняю жаўранка,
што трымцела над нівай жытнёваю;
з бруістымі крыніцамі,
якімі сілкаваліся родныя рэкі;
з боханам хлеба,
якім у дні ліхалецця
дзяліўся з сябрамі…
А развітаўшыся,
Душа зноў вяртаецца
да чалавека.
Толькі на часіну.
Каб сканаў ён
святою смерцю —
без жалю, шкадобы…

А можа, і з імі…

*1991*



## АКРАВЕРШ

Над зямлёю неба просінь.
Астываюць, меркнуць росы.
Ты паглядам сваім просіш:
«Ах, хутчэй, хутчэй бы восень!..»
Шчодры водар думных сосен…
Ах, хутчэй, хутчэй бы восень…

*1991*



Рвуцца думкі мае ў паднябессе —
ў каралеўства спакуснай цішы.
Ветрык ласкавым подыхам песціць
расхістаныя струны душы.

Думкі мкнуцца на волю, мяцеляць...
Бліснуў сонца прамень у вакне.
Нечуваная лёгкасць у целе.
Птахам сон пакідае мяне.

*1991*



Прашчуры мае сівыя,
абкураныя дымам вогнішчаў,
ахрышчаныя сполахамі маланкі,
асмужаныя сонцам і ветравеем, —
я пакланяюся вам,
як пакланяліся вы
агню-цудадзею,
маланцы-бліскавіцы,
сонцу-жыццядаю…
Прашчуры-радаводцы,
абкураныя дымам вогнішчаў,
а не заводскіх камінаў;
ахрышчаныя сполахамі маланкі,
а не рукою хлуслівага прарока;
асмужаныя сонцам і ветравеем,
а не радыяцыйным пылам, —
прашчуры мае нятленныя,
мая душа імкне да паяднання
з вашымі душамі —
чыстымі, як крыніцы,
светлымі, як мары,
даверлівымі, як дзеці…
Каб не страціць
веры ў людзей.
І ў самога сябе.

*1991*





Адлісцела восень,
адлісцела.
Не чуваць сімфоніі
жытоў.
Пасмутнела неба,
пасмутнела
ад тужлівай песні
журавоў.

Падаўжэлі цені,
падаўжэлі.
Сонца арабінаю
гарыць.
Пагусцелі зоры,
пагусцелі,
з месяцам мілуюцца
ўгары.

Замірае сэрца,
замірае
ад вусцішна-мяккай
цішыні.
Дагарае восень,
дагарае
барваю вячэрніх
зараніц.

*1991*



Дрэвы сумуюць па птушках,
па іх песнях-літаннях,
каб пазбыцца тугі і смутку,

птушкі — па небе,
не спавітым хмурнай смугою,
каб праверыць моц сваіх крылаў,

неба сумуе па зорках,
бы свежая ралля па залацістым зерні,
каб наталіцца іх трапяткім ззяннем,

зоркі — па рэках і азёрах,
каб на іх люстраной гладзі
падзівіцца з свае адвечнае ціхмянасці…

Чалавек сумуе па птушках, па небе,
па зорках…
па ўсім, што ў яго душы і сэрцы,
каб адчуць непаўторнасць жыцця.

*1991*





Цячэ рака жыцця майго
ў сутонні мройна-шэрым.
Суцішыўся душы агонь,
а ты, дзівачка, верыш:
спашле Ўсявышні нам з нябёс
заранак весніх долю.
…Скрыпіць пакутліва, да слёз,
наводшыбе таполя.

*1991*



Мне так трывожна, як падчас расстання,
бо цяжка б'ецца сэрца цішыні,
бо дагараюць зоркі на світанні
і засыхаюць дрэваў карані…

Бо надмагільны крыж зацяўся з болю
за тых ахвяр радзімае Зямлі,
што мужна неслі нам Святло і Волю
і ўратаваць якіх мы не змаглі.

Я слухаю з затоеным дыханнем,
як Час плыве у Вечнасць небыцця.
І чую я, народ, тваё стагнанне…

Хай будзе гэта стогнам-развітаннем
з бязладдзем і нягодамі жыцця!

*1991*

## МЕСЯЦ… ГРЭЕ

Месяц свеціць, ды не
грэе.

*Прымаўка*

Не бяруся аспрэчваць
гэтай народнай высновы, але…
…Месяц срэбным святлом
грэе-лашчыць сэрцы закаханых,
суцяшае збалелыя душы,
цепліць думкі-надзеі
адзінокаму вандроўніку…
Пад месяцовым
жыццядайным сяйвом
наліваюцца сокамі дрэвы,
узыходзіць і красуе жыта,
раскашуюць духмяныя травы…
І цячэ ракою Вечнасці
чалавечае жыццё
з яго адвечнымі трывогамі,
горыччу і асалодай.
Месяц свеціць…
І святло яго вечнае,
як і вечныя
яго спадарожнікі —
зоркі.

*1991*





*Бацьку*

Бацька клепле касу.
Дбайна ладзіць клеп.
«Ранкам загон скашу:
добры ўдаўся хлеб».

Дрогкі клёкат буслоў,
тупат стомленых ног,
цокат сталёвых падкоў
будзяць прастор дарог…

Будзяць і мой успамін,
горкі, як той палын.

*1991*



…Каб сам сабою стаў народ,
Пачуўшы гукі крэўнай мовы!

*Р. Барадулін*

Ці станеш ты, народзе,
сам сабою,
пачуўшы гукі крэўнай мовы?
Калі ўдарам перуновым
не будуць струшчаны аковы
пакоры, што ўладарыць
над табою?!

*1991*



Азірніцеся на ўласныя цені…
Гэта здані прашчураў
святой мінуўшчыны,
якая лучыцца з нашым сённяшнім
повяззю несмяротнасці Душы.
Цені-прывіды бароняць чалавека
ад усюдыісных угоднікаў,
каб не ператварыўся ў невідушчага,
аберагаюць ад адзіноты,
каб не звар'яцеў,
засланяюць ад позіркаў
хціўцаў і зларадцаў,
каб не знявечыўся душою…
А калі чалавек адыходзіць у нябыт,
цені застаюцца,
становяцца зданямі для тых,
хто з'яўляецца на свет
як працяг чалавечага роду.

*1991*





Адбалелае —
не забаліць
і пачуццяў святых
не верне.
Як не ўзыдзе
на ззяблай раллі
залацістае зерне.

*1991*



Я шукаю цябе —
і не магу знайсці.
Дзе-е-е ты? —
знемагаюць у прасторы
словы мае.
— Дзе ты-ы-ы? —
голасам кані
адгукаюцца з паднябесся
твае словы.
А мы — няўлоўныя.
Як подых ветру,
як святло бліскавіцы…
І загадаліся нам жаданні.
І нам усміхнулася знічка.

*1991*



…А ў люстэрку тваіх вачэй
убачыў
сяйво зорак,
жытнёвую рунь,
агністыя маланкі…

У пералівах голасу
пачуў
скрып весніц,
плач немаўляці,
пошчак салаўя…

Я спытаўся ў цябе:
«Ты… шчаслівая?»
І ты —
          усміхнулася.

*1991*



Дзе тояцца душы тваёй пакуты?
У маім маўчанні.
Дзе тояцца і радасць, і твой смутак?
У маім дыханні.
Дзе цепліцца твая Надзея?
У маім паглядзе.
…Кружляе Дух мой птахам-чарадзеем
на доляглядзе.

*1991*





Ўсё лятуць і лятуць тыя коні,
Срэбнай збруяй далёка грымяць…

*М. Багдановіч*

Лятуць апантаныя коні…
Па краі знямелым імчыць
Раскутая Воляй Пагоня —
Нястрымна імкне ў далячынь.

Лятуць апантаныя коні —
Аж стогне пад імі зямля.
Падковамі цокатна звоняць —
Віхурыцца рэха здаля.

Лятуць апантаныя коні…
І іх не суняць і не скуць.
Ад цокату стукае ў скронях…
Куды ж яны зноўку лятуць?!

*1991–1992*



…А той, хто не ўчуў
пошчаку ручая,
уздыху раллі,
шэпту дажджу…
Той не музы́ка.

А той, хто не ўбачыў
трымцення паветра,
росаў згасання,
цвіцення маланкі…
Той не мастак.

А той, хто не спазнаў
шчымлівасці Слова,
тужлівасці шчасця,
асалоды адзіноты…
Той не паэт.

*1991–1992*





Душа і Розум…
Два чалавечыя полюсы.
Дзве іпастасі.
Душа прагне узлёту,
Розум — спакою.
Розумам
Спазнаеш свет,
Душою —
Чалавека ў ім.
З-пад улады Розуму
Трапляеш у палон Душы.
І так бясконца.
Пакуль нітуецца
Жыццё.

*1992*



Празрыстая ціша як шкло
і чуйная, быццам бяздонне.
Дрыготкае рэха
сэрца сцяло,
як сцінаецца сонцам
сутонне.

І голас лясоў…
і грымот-навальніц…
і вясніц сіпатых…
і пожняў…
Уздыхі і стогны
радзімай зямлі
сцінаюцца ў гук
трывожны.

Здранцвела
знямоглая цішыня
ад рэха тых гукаў балесных…
А гукі набатам
звіняць і звіняць,
нібыта на родных абшарах
ім цесна.

І ціша напялася,
як цеціва.
Крый Божа,
вось-вось парвецца…



Дажыць бы да новага
нам
жніва
і новае ўбачыць
дасвецце.

*1992*



Выплывае раніца
з берагоў начы.
Цемра сонцам раніцца,
нікне ў далячынь.

Вочы твае весняцца,
поўныя трывог.
Зарыпелі весніцы…
Малады мурог…

П’ём смугу крынічную
аж да нематы…
Месяц з зоркай-знічкаю —
я і ты.

*1992*



*Памяці*
*Міколы Лупсякова*

Слязіцца зорка
у небе ранішнім —
тая, з якой ты вітаўся
сутонлівым адвячоркам
і развітваўся
шэрым досвіткам…

Галосіць вецер
дняпроўскаю чайкаю,
прычэсвае хвалі рачныя,
якія лагодзілі
твае агрубелыя рукі
і зямлістыя валасы…

Палавее Дняпро
зарой-зараніцаю
і водсветам полымя
зыркіх тваіх вачэй…

І плача надрыўна
над лугам
бяздомная кнігаўка
голасам маці тваёй…

***1992***





Хвалілася бура:
«Брат вецер…
Я —
самая моцная ў свеце:
асілкі-дубы
вырву з коранем…
І ты — захачу —
мне пакорышся!»

…А ветрык-гарэза
прайшоўся па бору —
той песняй азваўся
птушынага хору…

Узвіўся у неба
да хмарак імглістых —
яны сыпанулі
дажджом серабрыстым…

А толькі крануўся ён
гладзі азёрнай —
яна разгулялася
сполахам зорным…

І бура знямела
ў здзіўленні няўмольным:
«Што ж!..
Вольнаму — воля…
Вольнаму… воля!»

***1992***



Ткуцца сувоі
нябёсаў,
жарам гараць
рабіны.
Рвецца душа
у восень,
быццам шукае
спачыну.

Клін жураўліны —
апошні —
птахамі сірацее…
І над бацькоўскаю
пожняй
месяц згалелы
калее.

*1992*



Жыццё складаецца з імгненняў
Дабра і Зла, Святла і Ценяў…
У ім і радасці спатканняў,
у ім і роспачы растанняў.

*1992*





Зорыцца неба…
Пацеркі-дыяменты
шчодраць зямлі
жыццядайнае святло,
каб на ёй,
як і спакон вякоў,
красавала жыта,
цвіў лён,
курэлі канаплі…
і спелі
зямныя зоркі —
росы.

*1992*



…Прылятае ў сне
груган да мяне
і, знямоглы,
пытаецца:
«Ці даўно ты быў
на пагосце?
Чаму ж не прыходзяць
у госці
да родных і блізкіх
іх дзеці і ўнукі?
Я адзін без прынукі
вартую іх сон,
каб за полагам дзён
род людскі зберагчы…
травеюць жыцця берагі…
і курчацца з болю
вашы пакутныя прадзеды.
Ім
і на свеце на тым
Богам
долі не дадзена…»

…Б’ецца вецер у вокны
трывожна…
Трымціць у куце сіратліва
нябожнік…
«Ты скажы мне,
скажы…» —
птахаў голас дрыжыць



і згасае,
як полымя свечкі…

*1992*



Спеюць у прыцемках зоры.
Месяц дрыготка блішчыць.
Смехам срабрыстым азорыш
крылы збалелай душы.

Глянеш паглядам чароўным —
сэрца пазбавіш тугі…
Зорна-блішчастая роўнядзь
лучыць душы берагі.

*1992*

## ВАРЫЯЦЫІ

### I

Бяскрылы птах
у неба не ўзляціць.
Бяскрылая душа
усё ж імкнецца ў неба…
Ды толькі тым, крылатым,
хто ўзляцеў,
спускацца на зямлю
аднойчы трэба.

### II

Бяскрылы птах
у неба не ўзляціць,
бяскрылая душа
не вырвецца ў палёт,
бяскрылы громе —
ён не загрыміць,
бяскрылае святло
не разлагодзіць лёд...

Бяскрылыя, бяскрылыя...
Нямоглыя й нямілыя.

*1992*





У каго спытацца,
дзе выйсце з нябыту?
У святла ці ў цемры?
Цемраю ахінута святло —
і мае думкі блукаюць
у яе сутарэннях
і не знаходзяць волі…
Сонцам аслеплена цемра —
і няма спачыну маім думкам,
якія прагнуць волі…
Вось так і плыніць жыццё —
па законах сутоння,
дзе белае
не існуе асобна
ад чорнага,
а чорнае —
ад белага.

*1992*



Дым
з лагодаю абвівае
садовыя дрэўцы,
каб паўтарыцца
у іх першацвеце.

*1992*



Я спыніўся.
А цень мой паплыў
побач з ценем
сустрэчнай незнаёмкі.

*1992*



Ліхтар
у пустынным скверы…
Як свечка ля алтара.
Так і хочацца
пакланіцца.

*1992*



Месяц-сярпок,
як ззубіўся ты,
жнучы на паднеб'і
мятлістыя хмаркі.

*1992*





Пакуль спачывае вецер,
не спяшайцеся ападаць,
яблыкі-скараспелкі.

*1992*



Іскры на вадзе.
Вадзянік расчэсвае
русалкам косы.

*1992*



Чытаю сляды.
Людскія. Здзіўляюся:
безаблічныя.

*1992*



Сціхнуў вятрыска.
Загаманіла рака
моваю зорак.

*1992*



Ахмялелыя травы,
злеглае жыта
сняць касу і серп.

*1992*



Бакен-агеньчык,
ты сам-насам з поўняю…
Зайздросціць рака.

*1992*





Цвіце таполя…
Як на выданні нявеста.
Нібы ў запаволеным танцы,
кружляе ў паветры
шызаваты пух.
Кудзеркі-пухавінкі лашчацца,
хінуцца адна да аднае
ў роспачнай асалодзе,
што не паўтарыцца
такому імгненню…
Яны зліваюцца
ў бухматае воблачка,
якое расце, тужыцца ўвысь
і, здаецца, вось-вось зліецца
з грывастаю хмаркаю…
Кружыць тапаліны пух
у няўмольным
і такім велічным танцы…
Уладна і непаўторна —
бы самавіты дырыжор —
верхаводзіць
гэтым цнатлівым карагодам
вятрыска.
…І замірае маё дыханне,
нібы тапаліная аблачынка
ў абдымках голлейка
чубатага клёна.

*1992*



Луг без атавы…
Без бабінага лета
восеньскія дні.

*1992*



Толькі мёртвым
Душа не баліць.
І тым,
хто не можа заплакаць ужо
і ад болю.

*1992*



…Зямля — з хлебам,
грымоты — з бліскавіцай,
месяц — з небам,
з борам ігліца,
вечнасць — з імгненнем,
ластаўка — з летам,
дрэва — з карэннем…
А чалавек —
з цэлым светам?

*1992*





У прыроды свае законы —
спаконвечныя.
Калі засыхаюць крыніцы —
плытчэюць рэкі і рачулкі,
якія жывіліся імі,
чэзнуць хмызнякі і лазнякі,
сірацеюць на птаства,
бяднеюць лугі і лугавіны:
менее зёлак і красак…
Ці ж не такі лёс
і чалавечай мовы?
Яна жыве, красуе,
набірае моцы і дужасці,
пакуль сілкуецца вытокамі —
гаворкамі прадзедаў.
Але ж і яны,
гэтыя крыніцы-вытокі,
з часам плытчэюць,
губляюць сваю жыватворнасць.
Блякне тады і мова,
вяне яе першацвет…

*1992*



Каб стаць паэтам,
трэба быць
хоць крыху незямным.
І тады ў звычайным свеце
ты адчуеш нязвыклае:
у салаўіным пошчаку —
біццё сэрцаў закаханых,
у пералівах світанкавых росаў —
бляск вачэй закаханых,
у перазвоне ручая —
галасы закаханых...
Толькі трэба быць
хоць крыху
незямным!

*1992*



Правуркатаў
гром-вястун
над разлогам,
раскатурхаў
ён вясну:
«З богам!..»

*1992*





На сутоку
Святла і Цемры
нітуецца сутонне
нашага жыцця.
У здзічэлым змроку,
быццам краты,
мы шукаем
норы свае,
бы змарнелыя птахі, —
гнёзды свае
і, як плыткаводныя рыбы, —
віры свае…
Мы шукаем у Цемры
Світання.
Як вывернутыя бураю
карані дуба —
глебу.

*1992*



Не сціхай, навальніца:
дай наталіцца
маланкавым ззяннем
перад спатканнем.

*1992*



У вяршаліне
дрэва майго жыцця
спеляцца зоркі-маністы
з пераліvамі
агністых росаў,
серабрыстых світанкаў
і зіхатлівых бліскавіц…

У кроне ягоным
гняздуюць чароўныя птахі
з песнямі шчырага бору,
з перашэптамі жытоў
і голасам
каханай…

А ў падоле дрэва
бруяцца стазвонна крыніцы
і гояць яго карані…
Спыніся, вандроўнік,
ля дрэва
майго жыцця!..

*1992*





Жанчына,
цяжарная смуткам,
зарослай сцяжынай ішла.
На твары яе, на пакутным,
зіхцела слязінка святла.

Прыпала тужліва да ліпы,
што хмеліла шчасцем яе.
...Журліва вятрыска
усхліпвае,
як быццам кагосьці
заве.

*1992*



Скрыжаванне
маланак —
хрышчэнне Зямлі.

*1992*



Заходзіць сонца,
узыходзіць месяц.
Спатканне і ростань.

*1992*



Рыпяць весніцы,
як у пару
маёй маладосці.
Толькі —
ад подыху ветру.

*1993*



Чую бяздомніка голас,
поўны тугі і адчаю:
«Усюды не людзі, а голад...
голад мяне прывячае.

З ім я вандрую па краі
ў пошуках светлае долі...»
...Зорка-заранка мігае,
сэрца людское патоліць.

*1993*





Я не табой —
жыву тваім я ценем,
што перапёлкаю блукае
ў жытнім полі.
На гэты цень
малюся кожны дзень я,
як на сваю
зямную долю.

*1993*



Ліхаманкава
спякоціць сонца.
Млее у знямозе
цішыня.
І прастор палёў —
п'янкава-сонны —
як жанчыну,
хочацца абняць…

*1993*



Снуюць ластаўкі
над бацькоўскім котлішчам…
Светлаю згадкай.

*1993*



Я наказваў свайму сыночку:
«Не хадзі, мой каток,
у лясочак!
Там калматы лясун блукае,
ён цябе напужае…

Не хадзі, мой сынок,
у лясочак,
не хадзі, любы мой галубочак!
Там жыве ліхі ваўкалака…
Ён спалохае —
будзеш плакаць!»

Гаварыў я свайму сыночку:
«На дварэ ўжо цямрэва-ночка.
У бары сыч вушасты гукае,
неслухмяных дзяцей
забірае…»

І глядзеў мне сынок у вочы
пільна-пільна — насупраць ночы.
Што хацеў ён сказаць — не знаю,
толькі вочкамі распавядае:

«Там дзядок-лесавік гуляе
і на дудачцы спеўна грае,
а дзяўчына-вядзьмарка
ў скоках —
ажно гойсае пад аблокі!
Весялун ваўкалак так рагоча,



што збудзіў усіх
сярод ночы...»

Божа мой, што за цуд,
што за казка!
У вачах у сыночка — ласка.
Ад здзіўлення душа замірае:
ці то ява, ці сон — не знаю.

*1993*



З асцярогай ступаю
па роднай зямлі.
Бо рэха крокаў маіх
адгукаецца ў скронях
стогнамі продкаў забытых…
Няўжо ім баліць,
калі я ступаю
па роднай зямлі?

*1993*



На лугавіне
сірацее стажок,
завершаны
купкай туману.

*1993*



Адкрасавала жыта…
І засумавала па руні.
Бы птахі на чужыне —
па сваіх гняздоўях.

*1993*





Жыцця працяг…
Праменні сонца
касніцы заплятаюць ночы,
і восень тчэ ніты-красёнцы,
зязюля век людскі прарочыць…
І песня жніўная замёрла,
як завіруха — у падстрэшшы.
Жыцця працяг…
Пасланне мёртвых:
«Сабою будзь,
наш краю грэшны!»

*1993, 1996*



...Неба вясновае мне падае
Кубак блакіту.

*К. Камейша*

Смужэюць кустоўі ракіты
ад дыму, што ўецца сцягой.
Налі мне, паэце, блакіту
з вясновага неба — таго,

што над Налібоцкаю пушчай
з маланкамі ў згодзе жыве…
Душу маю смага адпусціць —
і стане лягчэй мне, павер.

А чым жа з табой падзяліцца?
Хіба што — сінечай лясоў?
З атрутай азёры, крыніцы…
І зводзіцца спеў жаўрукоў…

Налі мне, паэт самавіты…
Спатоль ад самоты Душу!
Смугою палыннай спавіты,
я кубак блакіту
прашу!

*1993*





Маўклівы цень
ад засохлага клёніка
лашчу,
нібы змерзлае кацяня,
даланёю.
І здаецца,
страпянуўся цень,
і зашапацела дрэўца…
На зайздрасць сваёй суседцы —
бялёсай, цнатлівай вішні.
І быццам растварыліся,
зніклі яны
ў пошугу веснавой квецені —
красуня вішня
і засохлы — на ўзмежку —
клёнік.

*1993*

## І ГАВОРАЦЬ МЕСЯЦЫ...

Студзень студзіць вокны, дзверы
подыхам мяцеліцы.
Завывае люты зверам —
аж дрыжыць аселіца.

Сакавік — з гаючым сокам,
з сонечнаю ласкай.
Красавік... І на узлобках
зацвітаюць краскі.

Луг вітае першатравы.
Травень... Час маёвы.
Чэрвень пчол выводзіць спраўна
на папас мядовы.

Хмеліць пахам размаітым
ліпень — аж нясцерпна.
Жнівень жне шчымліва жыта
месяцовым серпам.

Паліць верасень кастры
сінню верасовай.
З павуціння тчэ кастрычнік
дываны шаўковыя.

Лістапад... І ліст мядзяны —
водсвет заранiцы.
Снежань гоіць беллю раны
змоглае зямліцы.



Чую назвы месяцаў
роднае старонкі...
Колькі ў назвах месціцца —
гаваркіх і звонкіх!

*1993*



Успыхваюць-загараюцца зоркі —
зыркія і мігатлівыя…
Але з часам і гэтыя
(і тыя, што яшчэ загарацца)
таксама згараць…
…Нястомна віруе
зоркавае жыццё,
поўнае таемнасці і загадкавасці,
чароўнасці і непаўторнасці…
І заўсёднага абнаўлення.
Жыццё,
у якім неадлучныя
Імгненне і
Вечнасць.

*1993*



Дзень нарадзіўся
самотаю ночы.
Зданню сірочай
па вуліцы крочыць.
Гляньце:
тужліва-маркотныя вочы…
Дзень нарадзіўся
самотаю ночы.

Захад разліўся
барвовай крыніцай.
Ціша клапотна
люляе зямліцу.
Дзень спачывае,
каб зноў нарадзіцца…
Захад разліўся
барвовай крыніцай.

*1993*



## ВАРЫЯЦЫІ

### I

Мерныя стукі
тваіх абцасікаў
і майго сэрца
ловіць чуйная ноч.

### II

Мерныя стукі
тваіх абцасікаў
і майго сэрца
зліліся
з царкоўным звонам.

*1993*

## СКАЗ ПРА ЖЫТА

Не быў аніколі
ў заморскіх краінах,
не цешыўся пальмай
ніколі.
Нястомна мне шэпча
травінка-былінка:
«Дзівосы — у полі.
…Шуміць там калоссе,
тугою налітае,
і жніўную песню
вядзе перапёлка…
Услухайся толькі
у жыта малітву:
тут горычы колькі!..
Расце тое жыта,
як мак, самасеем…
Слязой ападаюць
зярняты у глебу.
Бо знаюць:
ніхто не збярэ
й не пасее,
хоць будзе —
без хлеба…»
Спявае былінка
штодзень калыханку:
«Прачніся, хлапчына,
зарою-світанкам,
пасей тое зерне
у глебу ўрадлівую —



і вырасце з зернейка
ніва шумлівая…»
…Няўмольна мне шэпча
травінка-былінка:
«Дзівосы — у полі,
на родным прыволлі…»

*1993*



Зайшоў у бор,
нібы ў гаёўню…
Адтуль выходжу
грэшнікам зямным.
Я смуткам-жалем
бор напоўніў…
Пакутую…
бы матылёк начны,
які ў знямозе рвецца
з цемры —
святла спасцігнуць
таямніцу…
Без суму я —
нібы душа без цела,
нібыта гром —
без навальніцы.

*1993*



Ці пасвятлела б наваколле
без крумкачоў?
Напэўна, не.
Бо светлае
і бачыцца светла,
калі ёсць цёмнае.

Ці палагаднела б наваколле
без крумкачоў?
Напэўна, не.
Бо калі б не тужлівы іх голас,
ці чуліся б —
як гулліва-шчабятлівыя —
галасы іншых птушак?

А што сталася б
без крумкачоў?
Асірацелі б
занядбаныя могілкі,
пасмутнелі б
самотныя душы,
забытыя нашчадкамі
і Богам…

Бо
спрадвечнае
крумкачовае крумканне —
як напамін жывым:
ты —
не адзінокі ў гэтым няпростым



людскім свеце.
Не адзінокі…

*1994*

## ВЕЦЕР

### I

Стаіўся вецер
у падстрэшку вясковай хаты:
слухае,
як уздыхаюць масніцы.

### II

Вецер на раздольным полі
чуе сябе нявольнікам:
няма з кім падужацца.

### III

Вецер прыціх каля весніцаў,
якія сваё
адрыпелі.

*1994*



…А самая далёкая дарога —
да бацькоўскага парога.
Бо чамусьці
ўсё радзей і радзей
выпадае
            пераступаць
                        яго…
І ўсё часцей і часцей
мы гэтай дарогаю крочым
у мроях,
у снах,
ва ўспамінах…

*1994*





Чакаю ночы, як збавення
ад смутку дня, што болем поўніць.
І прыпадаю на калені
перад ратункам божым — Поўняй.

Яе святло — як прычашчэнне
для душ маркотных і збалелых.
…Я п'ю святло — і ачышчэнне
Душу спатольвае і цела.

*1994*



…Стаць бы
нам на калені
перад бацькамі жывымі,
як —
      пры маленні!..

*1994*



Краіна мая —
рана мая незагойная…
Ці чуеш, як плачуць твае мацяркі?
Як стогнуць салдаты,
што згінулі ў войнах? —
аж ходырам ходзяць
мацерыкі…

Табой пагарджаюць,
табой расплаціцца гатовы
за срэбранік,
як роднаю маці —
звыродныя дзеці-сыны.
Што ім да цябе?!
І сярмяжнаю будзь ты,
і ў зрэб'і —
прададуць і такую
за бесцань яны.

Краіна мая —
мой боль несціханы…
Трасецца
ў раз'юшаным гневе зямля.
Здаецца, ступае
нага Чынгісхана:
бадзяжная песня, як гром,
наплывае здаля.

…Ці можам мы ўволю
надыхацца чыстым паветрам?



І смагу спатоліць
крынічнай вадой?
Чаму ж ты, народзе,
ў сабе і ў жыцці так зняверaны?
Няўжо гэта вырак —
суровы прысуд над сабой?!

Краіна мая —
мая зорка-заранaчка…
Душа мая плача і ў сне па табе.
Смыляць і баляць мне
твае незагойныя раны…
Прыпаў, як да маці,
я ў жальбе святой
да Цябе.

*1994*

## СОН

Прысніўся сон...

I

Скалеў апошні воўк у родным краі.
Яго расстайны «спеў» застыг,
бы вечнасць, — у імгненні.
І зоркі прараслі на цёмным небе
з ягоных горкіх слёз,
гарчэйшых за атруту.
Такія серабрыстыя яны,
як быццам снег
марознай месяцовай ноччу.
І ўсё слязяцца шэраю парою,
як вачаняты, трапяткія зоркі.
Нібы аплакваюць расстанне
ваўка са звыклаю зямлёю.

II

...А недзе
на ўзлеску кургановым
пры месяцовым лагадным святле
пачуўся голас... груганові...
Не... Не! То —
 голас чалавекавоўка
з драпежнай, крыважэрнаю душою,
з халоднымі і хітрымі вачыма...
З усіх людзей ён чыніць ваўкалюдаў,



нявечыць, хіжань, душы чалавечыя
і робіць іх жабрачымі, нікчэмнымі...
І адымае памяць пра свой род,
і так аслаблую,
нібыта пры скананні.

За што...
За што такая кара чалавеку?!
...Дрыготкі сонечны прамень
працяў стралою цемру,
паклаў
пачатак
дню...
І я —
збудзіўся.
Рады:
покуль —
 чалавекам!

*1994*



Мы ходзім па роднай зямлі,
а зямлі — не чуем:
як шапочуць-уздыхаюць
нязжатыя каласы,
як затоена сумуюць
адзінокія буслы,
як надрыўна стогнуць
асмужаныя лясы…

Мы ходзім па роднай зямлі,
а зямлі — не бачым:
ні асірацелых
вёсак і вёсачак,
ні спляжаных лясоў і ўзлескаў,
ні змялелых рэчак і рачулак…

Толькі з зямлёю
нам прыйдзецца ўсё ж
паяднацца,
калі прыме яна
у абдымкі свае.

*1994*





Наталяюся родным Словам…
Яно прарастае ў душы
цнатліваю рунню,
спеліцца на вуснах
шапатлівым коласам,
пераліваецца на іх
залатым зернейкам…
Наталяюся
родным
Словам…
Як прагавітая душа —
першацветам.

*1994*



Кужэльныя хвалі
люляюць месячык-чоўнік,
паланёны
зоркавым невадам.

*1994*



Сакавіта трашчаць
у печы дровы.
Гуллівае полымя
вясёлкаю гуляе пад чарэнню,
нібыта імкнецца давесці
няўцямнаму гаспадару,
каб падкінуў бярэмца.
…А за вокнамі
сіраціна бярозка
туліцца здубянелымі галінкамі
да незамерзлай шыбіны:
просіцца ў хату —
сагрэцца.

*1994*



Палахліва хліпае
святло свечкі:
баіцца растаць
у адчайным паглядзе.

*1994*





Пераступаю парог —
і быццам пакідаю там,
за парогам,
часцінку душы.
А наперадзе —
новыя, нязведаныя парогі.
І ці хопіць сілы і змогі
адолець іх?
Пераступіць і ўзысці
на новы парог?
Каб потым
без дакору расстацца.
Парогі…
І самы найдаражэйшы —
бацькоўскі,
праз які ўпершыню пазнаеш
дзівосы і тайны свету.
…Пераадолеўшы
нямала жыццёвых парогаў,
як хочацца вярнуцца
і зноў пераступіць
парог свайго маленства…
Каб па-новаму адчуць
першароднасць
найсвятой таямніцы свету —
цеплыню і дыханне
роднай зямлі.
Пакуль не позна.

*1994*



«Памірай, а жыта сей!» —
век казаў мой бацька.
Паміраў... Шаптаў, бы ў сне:
«Сынку мой... Дзіцятка...
Я... аджыў сваё жыццё...»
Снег. Мароз. Завея.
«Божа мой...
А як... жытцо?
Жменьку б хоць...
Сагрэю...»

*1994*



Захліпаецца голас
збедавалай душы
ў людской абыякавасці.
Як святло ліхтара —
у цемрыве.

*1994*





Туліцца адзінокі каласок
да схаладнелай зямлі…
Быццам чуе цяпло
вясновай раллі.

*1994*



На ценькіх павуцінах
бабінага лета
выводзіць восень
сонечным промнем-смычком
шчымліва-расстайную мелодыю…

*1994*



Сумуе асвер:
не вітаюцца рукі людскія
і неба — не кліча.

*1994*



Цячэ з рассечыны бярозавай
гаркавы, нібы матчыныя слёзы,
празрысты, як бруістая крыніца,
сок-крывіца.
Мяне даймае стынню вечаровай.
…Здаецца, нехта стогне,
нехта плача —
так жаласліва, па-дзіцячы,
а то — і ціха, і бязмоўна…
Як быццам просіць дапамогі.
А я — знясілены з дарогі —
прыпаў без змогі, у здранцвенні,
да той бярозкі, да карэння.
І чую: праз сувой стагоддзяў
таемны голас слых лагодзіць:
«Хлапчына добры, пакляніся,
што зможаш ты мне пакланіцца…
бярозцы гэтай, як каханай,
людзьмі і Богам занядбанай.
Ды толькі — ранняю парою…
З расою, з зорамі, з зарою…
І так тры дні. Ці чуеш ты,
хла-а-пчы-ы-на?..
І стану я —
князёўнаю-дзяўчынай!
А не —
марнець бярозкай мне
з ліхое волі…



І не спаткацца з любым
аніколі…»
І голас сціх, замёр.
Адзін залётнік вецер,
палошча, як шацёр,
бярозкавае вецце.

*1994*



Жыццё пражыць —
не поле перайсці...
Скажыце мне:
прайсці праз жыта
і не ўвайсці у жыта —
жыццё пражыта?
Ці яшчэ
не жыта?

*1994*



Снег... Мароз... Сонца...
Без сонца снег —
сонны.

Дождж... Гром... Вясёлка...
Без грому і дождж —
невясёлы.

Вецер... Ветразь... Воля...
Без ветру ветразь —
бяздольны.

Сонца. Дождж. Вецер... —
Долі маёй
суквецце.

*1994*





Мне шэпча нясмела Поўня:
— Мяне ты павінен помніць…

Значэлай парою не раз ты
ўглядаўся ў зорнае неба
і нешта шукаў, бы у кайстры
бадзяга скарыначку хлеба.

Мо сэрца хацеў ты спатоліць
святлом мігатлівае зоркі?
Адчуць і раздолле, і волю
хоць там, на нябесным прасторы?!

Мо з Вечнасцю вёў перамовы
пра гора людское і шчасце?..
Ратункам была табе Поўня —
патоля твая і прычасце.

*1994*



...Калі находзіць радасць на мяне —
яе прымаю, нібы дабрадзейку,
а расстаюся з ёй... як са зладзейкай,
што таямнічым ценем прамільгне.

Калі крадзецца гора да мяне,
як дзень насустрач апастылай ночы, —
яго страчаю я, нібы сурочча,
з адной надзеяй: можа, праміне?

Калі ж прыходзіць Слова да мяне —
я Слову рад, як шчодрай навальніцы,
што дасць душы сасмяглай наталіцца...
І як марозу рады
першы снег.

*1994*





Адзінокае вакно…
Палахліва мігае
(і ўжо каторую ноч)
святло незгасальнай свечкі.
Перад кволым агеньчыкам
становіцца нікчэмнай
гнятлівая цемра,
што,
як насланнё,
ахінае душу.
А ноччу адной
захліпнуўся агеньчык —
развітальнай
слязою
матулі.
І толькі да самага золку
ў адзінокім акне
мігціць
сіратлівая зорка.

*1994*



Разліваецца рака…
І жывіць
плыткія азярыны й крыніцы,
ручаіны й рачулкі…
Каб потым
сілкавацца імі
ў спёку.
А наталіўшыся воляю,
рака вяртаецца
ў сваё пракаветнае лона.
Як з выраю птах —
у роднае гняздоўе.

*1994*



Невідушчыя і ў цемрадзь
спазнаюць радасці.
А бывае,
і тым, хто бачыць,
і святло не прыносіць
патолі.
Яно становіцца для іх
звыклым, шэрым…
Як і яны
самі.

*1994*





У мроіве тваіх вачэй
гуляюць вабныя зарніцы…
Ці не таму мне так не спіцца,
што цягам жнівеньскіх начэй
з маланкай шчодрай —
навальніцы?

*1995*



Суцешыць можна
спагадлівым маўчаннем,
а засмуціць —
і спагаднай усмешкай.

*1995*



Палавее поўня
У смузе нябёс.
Туманы, што воўна,
Ахінулі плёс.

Глуха крыкне птушка —
Зойдзецца душа.
Ночкаю загушканы,
Задрамаў абшар.

Не пяецца песня:
Голасу няма.
На дварэ прадвесне,
На душы — зіма.

*1995*



На прыволлі
хмялеюць краскі…
І чэзнуць,
як паланянкі.

*1995*





Хлопчык скалеў на марозе
на дрогкай гандлярскай дарозе.

Зведаць каб смаку банана —
гандлюе газетамі рана.

«Вольвы» праносяцца чынна,
шчабечуць са шчэбенем шыны.

Да легкавых метэорам
ён шмыгае ля святлафора.

Толькі ніхто і не гляне
з-за шкліны, якая — што глянец.

...Стылае фараў святло.
Газета ў руках — як жазло.

*1995*



Цыганскі дождж.
Шчымлівы пах
п’янлівых красак, зёлак.
Як аблачынку, на руках
нясу цябе, вясёлую.

Плыве чаўнок маладзіка,
у ім князёўна-зорка.
І чуе сонная рака:
зайграў гулліва
золак.

*1995*



Саржавела бацькава каса.
А казалі: «Мусіць, з нержавейкі?»
...На атаве горкая раса,
як слязіна
на бацькоўскіх вейках.

*1995*



ДЫПТЫХ

I

І мёртвых дакараюць,
і на жывых —
як на мёртвых —
моляцца…
І ўсё тыя самыя.

*1995*

II

Быў бедны —
спачувалі,
стаў заможны —
зайздросцяць.
І ўсё тыя самыя.

*2005*



З поўным вядром —
вітаюся,
парожняга — асцерагаюся…
Баюся вядра,
што ржавее ля студні.

*1995*



Расце навальніца…
І вуркатаннем грымотаў
будзіць
санлівы абшар.

Расце туманок…
І бялёсымі космамі
захінае
шэрань зямную.

Немаўлятка расце!..
І анёльскай усмешкай
атуляе
стому матулі.

*1995*





З болю
нараджаецца спагада,
са спагады —
дабро.
А з дабра выспявае…
зайздрасць,
з зайздрасці —
нянавісць,
з нянавісці —
бяда…
І толькі з нікчэмнасці
плодзіцца
абыякавасць.

*1995*



Душа —
не камень.
Але стаецца,
што і яна
абрастае мохам.

*1995*



І пры святле
можна хадзіць як цень.
Калі душа —
шэрая.

*1995*



Рэха званкое —
шырэе прастора.
Рэха глухое —
вузее прастора.
А рэха нямкое —
знікае прастора...
Зліваецца з рэхам:
рэха — ў прасторы,
прастора — у рэху...
Р э х а п р а с т о р а .

*1995*





Прагну
ў вясну,
разгуканую нясмелымі грымотамі,
у лета,
спавітае жніўнаю песняю,
у зіму,
захутаную завеямі…
Бо ў прыродзе,
як кажуць у народзе,
ні вясны-красны,
ні восені-просіні…

*1995*



Над студняй рыпіць журавель —
ад ветру.
Над зямлёю крычыць журавель —
ад болю…
Вецер
з жураўліным адчаем
стогне ля студні.

*1995*



Мёртвыя —
не прачнуцца…
А калі ж прачнуцца
жывыя?

*1995*



Навошта і паміраць,
калі і пры жыцці
як мёртвыя?

*1995*



Дзівуецца поўня:
такая светлыня,
а людзі —
як прывіды.

*1995*





Ніцее надзея.
Як рошчына — роспач.
Ў нядзелю ўсе дзеі
нарогам — нароскрыж.

Дажджынкі ў дажынкі.
І росы ў дакоскі.
Хмурэе хмурынка
па скошанай косцы.

А рэха арэхам
у лесе лясуе.
Як грэшна агрэхі
касуюць красу ўсю.

Завыць каб завейна
лаўчыцца ваўчыца.
Радзее надзея.
Мне сніцца…
сініца.

*1995*



Быць вязнем чужой душы
цяжэй,
чым сваёй.

*1995*



Апошняя дажджынка —
на тваіх вуснах.
Зіхатлівая — як сняжынка,
халаджавая — як расінка,
гаркавая — што слязінка…
Такія спякотныя
і золкія вусны!

*1995*



Любіць
можна і Розумам.
А кахаюць —
толькі Душою.

*1995*





«Выйшаў сухім з вады» —
так кажуць пра чалавека,
які застаўся непакараным.
…А мне незабыўна помніцца,
як мой бацька, нябожчык,
лавіў таптухаю рыбу
і выганяў з-пад карчоў
«што калоды» лінёў,
«што косы» шчупакоў,
«нібы лапці» — вокуняў…
Потым грэўся ля вогнішча
пад іскрыстай наміткай неба
і прыгаворваў дрыготкім —
ад стыласці — голасам:
«Хочаш рыбы налавіць
і штаноў не намачыць?
Ды пасля — без цяпельца?
Без дымка?
Не-е-е, браце… Нягожа…
Не хацеў бы я й рыбы такой…»

*1995*



Так вярэдзіць душу
ад матулі пісьмо!
Пажаўцела яно,
гто кляновы лісток.

...Зноў пачулася мне:
зазірае ў вакно
адналетак мой, клён, —
ён будзіў мяне ў школу...

А ў канверце —
жытнёвы сухі каласок.
Я ў ім чую дакор
пераспелага жыта.

Як на крылах, лячу
я у мроях дамоў.
Родны кут спалынеў,
вецер каняй галосіць.
……………………….

Млосна-горкі ўспамін
так вярэдзіць душу...
Каб хоць трохі душы
палягчэла!

*1995*





Не сумуй па тым,
што не збылося.
Не шукай таго,
што не знайсці.
Глянь,
як долу хіліцца калоссе.
Слухай:
чайка трызніць у трысці...

А на ўсходзе
хмарка залатая —
то імгненне
вечнае красы.
На душы пагоднее, світае...
Я нібы анёлак —
божы сын.

Ну, а ты...
«Ў вачах смужынка-просінь»?
Не карай сябе,
што ў забыцці...
Не сумуй па тым,
што не збылося.
Не шукай таго,
што не знайсці!

*1995*

## ДЫПТЫХ

I

Пагавары са мною моваю
нястомных птахаў,
якія вяртаюцца ў гняздоўі,
дураслівага ветрыку,
што кудлаціць пасмачкі валасоў,
усхліпаў хваляў,
якія цалуюць бераг...
І толькі прашу аднаго:
не гавары са мною
мовай маўчання.

II

А ты
пагавары са мною
на мове маўчання:
іскрыстым бляскам вачэй,
зырчэйшым за самыя яркія зоркі,
няўрымслівым полымем вуснаў,
гарачэйшым за сонца,
нястрымнай лагодаю рук,
мілейшай за ласку вятрыскі...
Ці трэба мне іншая мова,
каб быць найшчаслівым
на свеце?

*1995*





Зорыцца на далоні
мілавіца-сняжынка…
Імгненне красы.

*1995*



Паміраюць пры маім жыцці.
Будуць адыходзіць і пасля.
І на той свет гожа б адысці,
каб чужой не сталася зямля.

*1995*



Сытыя ад сытасці галодныя,
галодныя голадам сытыя.
Душы, як сівер, халодныя.
Душы, як ветразь, адкрытыя.

*1995*



Родны край для мяне —
як забыты вятрак,
што балюча ўзмахне
надламаным крылом...
І стылее душа,
бы знямоглы жабрак
пад вячыста-нямым
месяцовым святлом.

*1995*



Напіўся туману,
нібы сырадою,
схмялеў ад настою
мядункі і мяты…
Чаму ж на душы
так балюча і гойна,
як згледзеў агеньчык
матулінай хаты?

*1995*





З бояззю
праклёўваецца жыта:
ці закрасуе?

*1995*

## ПЕСНЯ

### I

Тужліва рыпяць
аканіцы —
песня бацькоўскай хаты.

### II

Нібыта шалеюць —
Стракочуць конікі.
Сенакосная песня.

*1995*



І радасць
не сагрэе нішчымную душу.
Як ружа ў вазоне —
сваім пустацветам.

*1996*



…А на плоце
гужавеюць лапці-ліповікі,
якія адтупалі не адну вярсту
па лугах і лугавінах…
З імі суседзіцца
бусел-глячок,
які першы нашчыўся
сырадоем.
Побач —
варэйка-пузатка,
з якой частавалі гасцей
капустай і сытаю бабкай.
Пад паветкаю —
плуг саржавелы,
сякера ступелая,
бяззубыя барана і граблі…
У бабкі Маланні
двор — што музей.
У бабкі Маланні
двор…
без людзей.

*1996*





Жывых
да скону вучыць жыццё.
І на гэтай зямной пуцявіне —
залацінкі-імгненні
чалавечага шчасця.
А для тых,
хто сыходзіць за dоляглядzy,
мімалётнае, плыннае
зліваецца з вечнасцю.
Як і яны самі.

*1996*



Дарога ўздыхае
па вандроўніку,
лес — па рэху,
луг — па атаве,
рака — па чайцы...
А я не магу прызвычаіцца,
каб не ўздыхаць
па Табе.

*1996*



«Ой, доля мая, доля…
Як восеньскае поле».

Калее таполя
на ўскрайку мяжы,
пад ветрам пад сцюжным
дрыжыць.

«Ой, доля мая, доля…
Як жабрацкая воля.
Стамілася жыць…»

…А вакол
імжыць і імжыць.

*1996*



Калі не пяецца — навошта й спяваць
і песняй натужнай маркоціць душу.
Услухайся лепей у пошум дажджу,
учуй, як рагоча надрыўна сава,
гулліва шчабеча пад шынай жарства...
Навошта спяваць, як душа не пяе...
Услухайся лепш
у яе.

*1996*





Такая доля твая,
ігрушына-дзічка:
і пярэстаркай цвісці
на ўзлеску.

*1996*



Як бліскавіца ў цемрыве —
ты незвычайная
у аднастайна-роспачным жыцці.
Смяешся ты,
калі душа ў адчаі,
тужліва-светла плачаш —
з радасці...

*1996*



Твая слязіна, як жарынка,
маю далоню апякла.
І згасла горкая расінка,
майго не зведаўшы
цяпла.

*1996*



Вітаешся са мною
іскрыстым паглядам —
і я крыляю,
таямнічым — заміраю,
маўклівым — ніякавею...
І пачуваю сябе непрыкаяным,
як з радасцю са мной
расстаешся.

*1996*



Каліны позняе агонь
душу маю хутчэй сагрэе,
чым стылы бляск тваіх вачэй —
без роспачы і без надзеі.

*1996*



Маўклівае святло поўні —
адзінага вясковага ліхтара.
Я — не самотнік.

*1996*





Калі б у жыцці
былі адны шчасныя сустрэчы —
то і яны
ці прынеслі б чалавеку
ўдосталь радасці?
Толькі ў ростані ўчуеш
усю асалоду спатканняў.

*1996*



Жыву,
як спрадвеку ў жыцці
не вядзецца:
іду на спатканне
нібыта на ростань.
І сэрцу так млосна,
што нехта ж смяецца,
а мне і заплакаць
не проста.

*1996*



І на людным дарозе
пачуваю сябе самотнікам,
калі няма
спадарожнага ветру.

*1996*



Бязлюдны лес...
Як радуешся ты
рэху грымотаў!

*1996*





Каб маглі зазірнуць
у чалавечую душу,
нібыта ў люстэрка, —
як бы сумеліся мы
ад яе разгубленасці:
пакутуе душа,
а даводзіцца весяліцца,
радуецца,
а прыходзіцца сумаваць...
І ўсё часцей
і часцей.

*1996*



Хвіліна маўчання
за жалобным сталом.
З мігценнем
заплаканай свечкі.
Трывожна і вусцішна…
Як перад чаканнем
дзіцяці,
што ўжо
не народзіцца.

*1996; 2002*



Дым ад вогнішча,
якое прытушылі
закаханыя, —
гаркавы,
ад галавешак
спаленай хаты —
удушлівы.
А дым,
што пускаюць у вочы
ўгоднікі, —
гаркавы, удушлівы
і… саладжавы.

*1996*



Па табе
я трызню начамі.
Твой цень
і ўдзень —
перад вачамі.
А спаткаю цябе,
ты — не тая...
Ты ж раней і ў журбе
смехам чыстым
вітала!

*1996*





Мабыць,
самая адданая чалавеку —
слязіна.
І ў радасці — з ім,
і ў горы...
І пры скананні
яна расстаецца
апошняя.

*1996*



Між сённяшнім і наступным
тоіцца невядомасць.
Яна вярэдзіць розум,
будзіць прагу пазнання
яшчэ нябачанага, нячутага...
Але ж і сённяшняе
некалі таксама было
невядомасцю?
І каб не стала яно таямніцаю
для нашчадкаў?
Хоць...
жарсцю пазнання
жыве чалавек.

*1996*



Нарадзіўся, каб жыць
У самотнай краіне
І жыццём даражыць,
Як каханай дзяўчынай.

Нарадзіўся, каб жыць...
П'ю журбы асалоду.
Як ратунак душы —
Тваіх вуснаў лагода.

*1997*



Звykліся мы:
«Як ёсць — так і добра...»
І дзякуем Богу,
што жывём шчэ на свеце.
І хлеб ёсць і бульба,
не зводзіцца й чарка...
І цешымся мы,
што і жыта ўзыходзіць,
палавеюць гурочкі...
І толькі чамусь на пытанне
«Ну як хоць жывецца?»
глыбока ўздыхаем.

*1997*





Вітаюцца і развітваюцца,
радуюцца і смуткуюць,
нараджаюцца і паміраюць...
Суцяшае славянскае,
старажытнае:
«Усё мінаецца...»
І так вярэдзіць нядаўняе,
чутае ад вясковай бабулі:
«І калі ж бо мінецца
тое горайка-ліха?..»

*1997*



Далёкае і такое блізкае...
Блізкае, а такое чужое...
Шчымліва рыпіць калыскаю,
паглядам-маланкай бліскае,
сцінае мяне тугою
блізкае мне і далёкае.
А сэрца трывожна ёкае:
далё-ё-кае, далё-ё-кае...
Галёкае,
як рэха
адзінокае.

*1997*



Палоніць музыка тваіх вачэй,
нібы вясёлка пасля шчодрай навальніцы.
А голас твой — як мілазвонная крыніца:
ён песняй жаўранка — нястомнаю —
бруіцца...
Як боль, святы ўспамін душу пячэ.
І светла мне: жыву яшчэ...
Жыву!

*1997*



## ЭЛЕГІЯ

Як грэшны пакутнік,
я літасці ў Бога прасіў:
«Чаму я закуты
у путы туманнай хлусні?»

Стараўся жыць мудра:
нічога не бачыць, не чуць.
Вяла мяне мудрасць:
«Таланіць таму, хто маўчун».

Сумеўся ў жыцці я:
не знаю, дзе шэрань, дзе бель.
Зямная стыхія
вядзе карабель мой на мель...

І грымнула з неба...
І рэха — як голас Душы:
«Зямлі — не па-трэ-э-бен...
Ня-во-о-льнік... Ты й небу —
чужы!»

*1997*



...А мне
дарагі і блізкі сум —
па нябожчыцы маці.
Як подых — у спёку — дажджу,
ён студзіць і лашчыць душу.
...Зноў чуюцца маміны словы:
«Сыночак, а ты хоць... здаровы?»

Без гэтага светлага суму
так сумна.

*1998*



## ВАРЫЯЦЫІ

### I

Самае дарагое —
не тое, што згубіў,
а тое,
што страціў.
Бо згубленае
можна й знайсці,
а страчанае —
ніколі.

*1998*

### II

Самае дарагое —
тое,
што беражэцца
ў душы і памяці,
як неацэннае багацце,
якое ты бездапаможны
растраціць.

*2006*



Маці мая, гаротніца,
раіла цётцы Лукер'і,
як балела ёй на душы:
«Выплакацца, таечка, трэба...»
А сама неаднойчы —
на схіле гадоў —
прасіла-маліла Ўсявышняга,
каб хоць слязінку паслаў...
«Ці ж мая душачка
выстыла?
Ці ж я ўсе слёзачкі
выплакала?..»

Хавалі матулю...
І лёгкі цыганскі дождждык
акрапіў ёй зямельку,
уволю напоеную
і яе слязьмі.

*1998*





Адно і жывём,
што вяртаемся:
з дня сённяшняга —
у мінулы,
з мінулага —
у сённяшні…
І губляцца —
не губляемся,
і сябе —
не знаходзім…

*1998*

## ТРЫ ДАРОГІ

Першай дарогай ступае не кожны:
яна вядзе ў несмяротнасць.
Другая дарога яднае ўсіх нас —
дарога расстання...
Пашчасціла б выбраць —
пайшоў бы я трэцяй дарогай, —
каб зноў нарадзіцца...

*1999*



Аднойчы пачуўся ў сне
голас матулі:
«Праведаў бы, сыночак, хацінку.
Во трэці гадочак пайшоў,
як стаіць сірацінай яна.
І як там Малання-за-рэчкай жыве?
Ой, як нылі, балелі рукі ў яе...
А кот наш, Ціхоня?
Ён век пільнаваў мяне ля Аксінкі,
калі я ў лаўку па хлеб хадзіла...
Каб хоць не забыцца: на ўзмежку —
ну, там, дзе хлявок бабы Харціны, —
кура-самаседка квактала.
У самую восень.
То сыпні пылянятам...
Як патрапіць убачыць
Балахона Івана ці Касцея Бліна,
папрасі, хай паветку паладзяць
і варотцы ў гарод...
А яшчэ, мой сынок,
перадай Агееву Пецю,
мо б вазочак з лесу падкінуў?
Бярозавых ці хваёвых?
А чарка, скажы,
для яго прыхавана.
Божа мой! Хіба ўспомніш усё?..
Каб ты ведаў, сыночак,
як плечы свае я адлежала
у зямельцы сырой.



Усё цела баліць — як пабітае...
Адно што душою крыяю.
Мо як-небудзь акрэпну —
вярнуся...»

*1999*



Адны раілі насалодзіцца
ўсходам сонца,
каб спазнаў
таямніцу народзін;
другія —
навабіцца захадам сонца,
каб адчуў непаўторнасць
расстання;
трэція —
любавацца паўночным ззяннем,
каб прычасціўся
подыхам вечнасці...
А я цешуся дажджынкаю
на вейцы сваёй каханай —
і наталяюся красою
імгнення.

*1999*



Як гром на жагнанне маланкі,
зярнятка на дыханне глебы,
як маці на покліч дзіцяці —
на Слова, Душа, адгукніся!

*2002*



Прыпыніся, чалавеча:
з бярозкі ападае
апошні лісток.

*2002*



Туманее раніца.
Пахне сырадоем
няскошаная атава.

*2003*





Гай без птушак —
маўклівы.
Месяц без зор —
сіратлівы.
Жаўрук без блакіту —
тужлівы.
А я без Цябе —
бяскрылы.

*2003*



Першы снег.
Першая ўсмешка дзіцяці.
Імгненне таемнай чысціні.

*2004*



У царкве.
Адны моляцца —
просяць паратунку,
другія замольваюць
свае грахі,
а трэція —
стаяць моўчкі.
З заплаканымі свечкамі.

*2004*



Многія і на волі —
нявольнікі.
Чужой Душы.

*2004*



Збываюцца мары адных.
Праўдзяцца праклёны другіх.
І ўсе па-свойму
шчаслівыя.

*2004*





Адзінокі стажок
на ўзлеску.
А на ім —
бусел з бусліхаю.
Ад клёкату
замірае наваколле.

*2004*



Спыталіся ў заможніка:
«Што цяжэй:
нарадзіцца ці памерці?»
І той адказаў:
«Жыць».

*2004*



Прарэзлівы гул сірэны.
Плач-галашэнне матулі.
Шчымлівы царкоўны спеў.
Хвіліна маўчання.

*2004*



Яловыя лапкі на дарозе…
Сірацеюць людзі.
Сірацее лес.

*2004*



На заснежаным падворку
адзіныя слядочкі —
сінічак.

*2005*



Кожнаму
шанцуе па-свойму:
каму дастаецца
спадчына,
а каму —
міласціна.
І ўсё —
не сваё.

*2005*



## ДЫПТЫХ

I

Адны цешаць сябе
будучыняй,
другія ўздыхаюць
па мінулым.
А ён слухае, як вуркочуць
голуб з галубкаю, —
і светла ўсміхаецца.

*2005*

II

У скрушную часіну
хто прыслухоўваецца
да душы,
хто давяраецца
розуму…
А ўдава Марыля варожыць
на пялёстках рамонка.
І таямніча ўсміхаецца.

*2006*



У жыцці —
і радасці, і нягоды…
Адно нязменнае:
ты — часовы…

*2005*



«Беларусь, твой народ дачакаецца
Залацістага, яснага дня…»
Згадваюцца словы
яшчэ аднаго класіка:
«Товарищ, верь: взойдет она,
Заря пленительного счастья…»
І чакаем, і верым…

*2005*



Нявестаю — цэркаўка:
у вішнёвых пялёстках.
Схамянуўся жабрак.

*2005*





Паміраць —
ніколі не позна.
Не спазніцца б
жыць.

*2005*



— Каго цяжэй за ўсё
перахітрыць?
— Самога сябе, —
усміхнуўся мудрэц.

*2005*



Вочы —
каб бачыць,
вушы —
каб чуць,
а Душа —
каб адчуваць,
што бачыш
і чуеш.

*2005*



Калі б жывы быў Сакрат,
ён мог бы сказаць:
«Расстаюцца —
каб сустрэцца,
а не сустракаюцца —
каб расстацца».
…Як мы з табою.

*2005*



І бедныя
па-свойму шчаслівыя:
ім не зайздросцяць.

*2005*





Хто імкнецца на Усход,
хто — на Захад…
А дзед Цімох тэпае ў гарод:
палівае градкі,
каб спелі гурочкі,
збірае каларадскіх жукоў,
каб урадзіла бульбачка.
Мінае лета, зіма…
Зноў
гурочкі, бульбачка…—
Ягоныя Усход і Захад.

*2006*



У некаторых творцаў
жыццё — што знічка:
кароткае,
бы ўдар перуна,
але яркае,
як сполахі бліскавіцы, —
жыццё,
у якім паяднаны
Імгненне і Вечнасць.

*2006*



*Памяці*
*Алеся Пісьмянкова*

Прагну
з табою
сустрэцца…
Як бакен-агеньчык —
з ракою.
Без цябе я —
бяскрылы.
Як жораў,
які ўжо не мае сілы,
каб вырвацца ў неба.
…Зноў чакаю цябе.
Як чакае змарнелае зернетка
глебы.
Чакаю…

*2006*



## ДЫПТЫХ

### I

Дожджык-пырскуль
пацяшае,
подых ветрыку
лашчыць,
усмешка немаўляці
акрыляе…
Чароўнае.
Незабыўнае...

### II

Расстайнае курлыканне журавоў,
сляза на шчацэ каханай,
самотная ўсмешка матулі…
Шчымлівае. Дарагое...
Як і само жыццё.

*2006*



З песняю
лягчэй жыць.
Толькі не заўсёды яе
лёгка спяваць.

*2006*



…З крыўдай —
боль,
з болем —
цярпенне,
з цярпеннем —
маўчанне.
А з маўчання —
яшчэ гнятлівейшы боль…
Пакуль не скоціцца
гаючая сляза.

*2006*





Дзецям не стае
мудрасці дарослых,
каб радзей памыляцца,
дарослым —
дзіцячай наіўнасці,
каб часцей здзіўляцца.
Але ж той,
хто памыляецца, —
вучыцца.
А хто перастае здзіўляцца —
нішчымнее
душою.

*2006*



Зычаць
радасці, шчасця…
І толькі
чамусьці забываюцца
пажадаць,
каб вясною пасеялі
жменю зярнят,
каб госцю паднеслі
акраец духмянага хлеба
і кілішак жытнёўкі…
А на развітанне —
наша, зычлівае:
«Бывайце здаровы,
жывіце багата!»

*2006*





Кожны нарадзіўся
пад сваёй зоркай —
світальнай ці вечаровай.
Яна сілкуе чалавека энергіяй
усё яго жыццё.
Знікае зорка —
і нехта адыходзіць у нябыт,
загараецца —
і нехта з'яўляецца на свет,
каб прадоўжыць род чалавечы.

Успыхваюць зоркі.
І ўсё ярчэй і ярчэй.

*2006*



І багатыя
плачуць.
Нярэдка —
слязьмі бедных.

*2006*



Адмысловыя беларускія святы:
дакоскі — з духмяным сенам,
дажынкі — з залатымі снапамі,
дакопкі — з разварыстай бульбай…
І — з песняй, такою роднай:
«У танок, жнейкі, у танок,
А звілі мы Васілю вянок.
Ай не з ружы, ай не з мяты,
А з ядранога жыта…»

*2006*



Жыццё пражыць —
і поле перайсці,
парослае хвашчом,
і лес,
напоўнены трывожным шчэбетам
птушыным,
і луг,
някошаны які ўжо год…
Цяжэй за ўсё
прайсці цераз сябе самога.
І быць
шчаслівым.

*2006*





…І цішыня
бывае падманлівай
(у ёй спее навальніца),
і маланкі з перунамі
(паласуюць неба,
а дажджу — ні кроплі).
Але ёсць
і найгоркі падман:
калі прызнаюцца ў каханні —
і здраджваюць.
Не толькі любай —
і сабе.

*2006*



На пахаванні
адны галосяць,
другія плачуць,
трэція ўсхліпваюць…
А большасць
стаяць моўчкі.
Ведаюць:
усё
мінаецца.

*2006*



Мудрэц суцяшае:
«Усё ў сваіх руках».
Пярэчыць бедны:
«У чужых…»
«У нашых!..» —
ганарыцца багаты.
…Усміхнуўся бязрукі.

*2006*



Жабрак ля царквы.
На далоні —
першая міласціна:
залацісты кляновы лісток.

*2006*



ВАРЫЯЦЫІ

I

Без суму
не спазнаеш радасці,
без гора — шчасця.
А без пакутаў —
асалоды жыцця.

*2006*

II

Хто шануе радасць,
той даражыць і сумам.
Бо толькі праз сум
можна паўней зведаць
асалоду радасці.

*2007*



Да Бога
самая нялёгкая дарога —
праз сябе самога.
Праз пакуты —
ачышчэнне,
праз няволю —
вызваленне...

*2006*



Яны суладныя —
святло і цемра.
З цемры
нараджаецца святло,
а ў святле
спеліцца цемра.

*2006*



Губляюць —
сваё,
а знаходзяць —
чужое…
Якое ніколі не стане
сваім.

*2006*





З людзьмі — добра.
А настае хвіліна,
калі так хочацца пабыць
сам-насам з сабою.
Са сваімі пакутамі.
Каб потым
лёгкай Душою
сустрэцца з людзьмі.

*2006*



Ад шчасця
Душа радуецца,
ад смутку —
уздыхае,
ад гора —
плача…
А часцей за ўсё
яна моўчкі трывае,
як на допыце —
мужны вой.

*2006*



А мама…
…Здарожанаму — кубак вады,
старцу — акраец хлеба,
знаёмаму — «Дзень добры!»,
зайздросніку ці зласліўцу —
«І вам таго ж!».
…Схамянуўся,
калі прайшоў міма
шапкі жабрака.

*2006*



Пусты колас
шапоча з ветрыкам,
а поўны —
маўкліва хіліцца
да зямелькі.
З паклонам.

*2006*





І сярод чужых —
свой,
і сярод сваіх —
чужы…
Адно суцяшае:
сярод людзей.

*2006*



Іржа раз’ядае
жалеза,
дым —
вочы,
зайздрасць —
сумленне…
А хлусня —
душу,
без якой у чалавеку
няма Чалавека.

*2006*



Пры сустрэчы
каханыя вітаюцца
позіркам,
сябры —
поціскам рукі,
знаёмыя —
кіўком галавы,
зласліўцы —
яхіднай усмешкай…
А ворагі —
зацятым маўчаннем.

*2006*



Адным не стае мужнасці,
каб прызнацца ў каханні,
другім — у здрадзе…
А яшчэ большую сілу духу
мусіць мець той,
хто ўжо ніколі не пакахае
і — не здрадзіць.

*2006*





Нябожчыка памінаюць:
родныя і блізкія —
чаркай за жалобным сталом,
знаёмыя —
добрым словам,
зламыснікі —
маўчаннем,
а зацятыя помснікі —
зламанаю свечкаю.

*2006*



Некаторыя
дакараюць сябе да скону —
што не прызналіся ў каханні.
Але ж непрызнанне
вярэдзіць душу,
а прызнанне —
толькі светлая згадка.

*2006*



Адны
не бачаць таго,
што ёсць.
А некаторым
наканавана бачыць тое,
чаго няма, —
мінулае і будучае.
Каб яшчэ раз пераканацца:
усё на свеце
часовае і вечнае.

*2006*



Тым,
хто ў няволі,
трэба мець моцны дух.
Каб выжыць.
А тым,
хто трапляе на волю, —
яшчэ мацнейшы.
Каб не стаць
бязвольным.

*2006*





Шчаслівыя,
каго чакаюць.
А яшчэ болей
шчаслівыя тыя,
каму ёсць каго
чакаць.

*2006*



Гора яднае людзей,
а шчасце…
раз’ядноўвае.
Парадоксы быцця.

*2006*



Што нарадзілася —
не народзіцца;
што адкрасавала —
не закрасуе…
Жыццё таму і таямнічае,
што — непаўторнае.

*2006*



Успаміны —
не паўтарэнне,
а ўзнаўленне
ў памяці таго,
што
не паўторыцца.

*2006*



Пры сустрэчы —
«Добры дзень!»,
Пры расстанні —
«Усяго добрага!».
Беларуская дабрыня.

*2006*



Адны здраджваюць,
калі закахаюцца ў іншых,
другія кахаюць тых,
хто здраджвае ім.
Каханне і здрада...
І ўсё даецца
з пакутамі.

*2006*





Шкадуюць,
хто нарадзіўся сляпым,
хто аслеп пры жыцці.
А мне яшчэ болей шкада
сляпых душою.

*2006*



Нялёгка жыць
паміж быццём і небыццём.
Яшчэ цяжэй —
пражыць жыццё,
нібы адбыць.

*2006*



Балюча,
калі табе здраджвае
блізкі чалавек,
а яшчэ балесней,
калі здраджваеш
сам сабе.
Бо губляеш веру
не толькі ў людзей,
але і ў сябе самога.

*2006*



Спеліцца,
прамаўляецца
Слова…
Радуе і акрыляе.
…Не заўсёды і маўчанне —
золата.

*2006*





Хто не верыць,
той не сумняваецца.
А жыць без сумненняў —
што ісці знаёмаю дарогаю:
і зблудзіць —
не зблудзіш,
і новага —
нічога не зведаеш.

*2006*



Дзеляцца горам, бядою…
І толькі чамусьці
не прызвычаіліся
дзяліцца шчасцем.
Ці не таму,
што шчаслівыя —
усе аднолькава,
а няшчасныя —
кожны па-свойму?

*2006*



Нявымаўленае —
вымавіцца.
А невымоўнае
можна адчуць —
у голасе, позірку…
Яно — таямніца,
непадуладная Слову.

*2006*



> Не сумуй,
> Мой белы бусел,
> Прылятай, і я — вярнуся…
>
> *А. Пісьмянкоў*

Я вярнуся,
белы бусел,
не забаўлюся, збяруся.
Паклякочам
мы дасхочу —
аж да саменькае ночы.
Будзе споведзь
як аповесць —
нашых душ
зямная повязь.

*2007*





Жанчына марнела:
не даў ёй Бог дзетак.
А неяк
прыснілася ёй немаўлятка:
з вачыма — як зоркі,
з анёльскай усмешкай…
Жанчына ўздыхнула
з палёгкай:
і яна — маці!

*2007*



Цярплівыя
маўчаць.
Пакуль церпіцца,
пакуль маўчыцца…
Але ж цярпенне — струна,
а маўчанне —
яе затоены голас…

*2007*



Грэшныя моляцца
рукою,
а святыя —
і Душою.

*2007*



Жыць вольным
у няволі —
што дыхаць
у курадымнай хаце.
І сканаць —
не сканаеш,
і смаку —
не адчуеш.

*2007*





Калі назаўсёды расстаюцца
з блізкім чалавекам,
родным спачуваюць
словам, слязою…
А то і моўчкі,
нібыта самім сабе, —
што засталіся
адзінокімі
душою.

*2007*



Розум і Душа —
што месяц і сонца.
Адно свеціць,
а другое —
яшчэ і грэе.

*2007*



Паэту дарагія
і зямля, і неба.
На зямлі ён спазнае́
радасці і пакуты.
Нябёсы пасылаюць яму
натхненне.
Каб нараджаліся вершы.
Аб зямных радасцях.
Аб пакутах,
якія ачышчаюць Душу.

*2007*



Выгнаннікі
чужой Душы…
А яшчэ жахлівей,
калі — сваёй.

*2007*





Уздыхае сейбіт:
такая сухмень —
ці ўзыдуць зярняты?
Ралля ўздыхае:
ці набярэцца сіл —
для руні?
І хмара ўздыхае:
ці пральецца
дажджом?
…Санліва вуркочуць
грымоты.

*2007*



Творчасць
пачынаецца з пакутаў.
Але ж і пакуты —
таксама творчасць.
Душы.

*2008*



І ў прызнанні
ёсць доля здрады.
Самому сабе.
Бо сакральна-таямнічае
становіцца явай.

*2008*



Геніі…
На іх моляцца,
як на святых,
ім зайздросцяць,
як шчасліўцам,
спачуваюць,
як пакутнікам…
А бывае —
і ненавідзяць.
Усё тыя ж геніі.
І не толькі
непрызнаныя.

*2008*





У цішыні спее
бура,
у цемры —
світанне,
у завеях —
адліга…
А ў Душы выспявае
спагада і зайздрасць,
надзея і роспач,
каханне і здрада...
А часам —
і нянавісць.
Не толькі да іншых —
і да сябе.

*2008*



Хлусіць — грэх.
Але ёсць і святая мана.
Дзеля жыцця.
Якое не паўторыцца
і ў якім —
не паўторышся.
Нават каб замаліць
грахі.

*2008*



Таямнічае
прагнуць разгадаць,
а патаемнае
стараюцца зберагчы
да скону.
Як святое.

*2008*



Глухія не чуюць,
сляпыя не бачаць…
А бяздушныя —
не спачуваюць
ні глухім, ні сляпым…
Ні такім,
як самі.

*2008*





Прызнанне
ў сваіх грахах —
споведзь.
Бо ачышчаецца Душа.
Даразанне
іншым грахоў —
святасць.
Бо ўзвышаецца Душа.
А папрокі за грахі —
слабасць.
Бо нішчымнее
Душа.

*2008*



Таямніцы жыцця…
Яны — як далягляд:
чым бліжэй падыходзіш
да іх разгадкі,
тым усё болей яны
аддаляюцца.

*2008*

## БІЯБІБЛІЯГРАФІЧНАЯ ДАВЕДКА

**Рагаўцоў Васіль Іванавіч** нарадзіўся ў 1952 годзе ў мястэчку Стрэшын Жлобінскага раёна Гомельскай вобласці. Доктар філалагічных навук (2003), прафесар (1993), член-карэспандэнт Беларускай акадэміі адукацыі (1999). У 1973 годзе закончыў Мазырскі педагагічны інстытут (цяпер педагагічны ўніверсітэт імя І. Шамякіна) па спецыяльнасці «Беларуская мова і літаратура». Настаўнічаў у Светлагорскім раёне Гомельскай вобласці. З 1978 года ў Магілёўскім універсітэце (з 1983 загадчык кафедры беларускай мовы).

Аўтар манаграфіі «Маўленчае выражэнне камічнага ў беларускай драматургіі» (Магілёў, 2002) і шэрагу навучальных дапаможнікаў для студэнтаў філалагічных факультэтаў ВНУ Беларусі. Сярод іх: «Моўны разбор у ВНУ і ў школе» (з С. Я. Кечык; Мінск, 1988), «Практыкум па ўводзінах у мовазнаўства» (Мінск, 1989; 2-е выд. «Уводзіны ў мовазнаўства: практыкум», Магілёў, 2003), «Уводзіны ў мовазнаўства: заданні для самастойнай работы студэнтаў» (Мінск, 1992), «Сінтаксіс беларускай і рускай моў: дыскусійныя пытанні» (Мінск, 2001), «Практыкум па гісторыі агульнага



мовазнаўства» (Мінск, 2001), «Уводзіны ў мовазнаўства» (Магілёў, 2004), «Гісторыя мовазнаўства» (Магілёў, 2005), «Агульнае мовазнаўства» (Магілёў, 2006), «Агульнае мовазнаўства: практыкум» (Магілёў, 2007), «Агульнае мовазнаўства: заданні для тэставага кантролю» (Магілёў, 2009). Аўтар энцыклапедычнага даведніка «Мовы свету» (Магілёў, 2009). Адзін з аўтараў «Матэрыялаў да абласнога слоўніка Магілёўшчыны» (Мінск, 1981), «Руска-беларускага слоўніка па машынабудаванні» (Мінск, 1998), «Анамастычнага слоўніка Магілёўшчыны» (Магілёў, 2000), біябібліяграфічнага даведніка «Мовазнаўцы МДУ імя А. А. Куляшова» (Магілёў, 2002), «Слоўніка мікратапонімаў Магілёўшчыны» (Магілёў, 2004).

Аўтар чатырох паэтычных зборнікаў: «Сутонне» («Бібліятэка часопіса «Маладосць»», 1995), «Долягляд» (Мінск: Юнацтва, 1998), «Адмыслоўцы» (Мінск: Кнігазбор, 2007), «На роскрыжы дарог» (Мінск: Кнігазбор, 2008).

Першы верш быў надрукаваны ў жлобінскай раённай газеце «Камуніст». У рэспубліканскім друку з паэтычнымі творамі выступіў у 1968 годзе (часопіс «Бярозка»). Вершы друкаваліся ў хрэстаматыі для вучняў

старэйшых класаў «Сэрцам роднага слова краніся» (Мінск, 1998), анталогіі беларускай паэзіі XX стагоддзя «Краса і сіла» (Мінск, 2003), вучэбным дапаможніку А. М. Змушко «Беларуская мова і чытанне» (Мінск, 2007) і інш., часопісах «Полымя», «Маладосць», «Роднае слова», «Першацвет», газетах «Літаратура і мастацтва», «Чырвоная змена», «Настаўніцкая газета», «Наша слова», «Белорусская нива», «Сталіца», у абласным перыядычным друку.

Асобныя вершы пакладзены на музыку кампазітарам М. Яцковым.

Сябра Саюза пісьменнікаў Беларусі.

Узнагароджаны медалём Францыска Скарыны.



# ЗМЕСТ

